© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 24 (52) 29 ліпеня—3 жніўня 1993 г. Цана 5 рублёў




Фота аўтара.

Готыка Вільні.

## У ТЫДНЁВІКУ:



## Трэцяя сталіца

Полацак—Наваградак—Вільня... Лёс нашай зямлі, розныя эпохі яе гісторыі абралі гэтыя гарады цэнтрамі гуртавання беларускага духу, яднання яе стваральнае волі,узнясення велічы яе дойлідства, узвелічэння знакаў яе культуры і дзяржаўнасці.

Новай сталіцай Вялікага княства абраў Вільню вялікі князь Гедымін. Менавіта гэтая падзея, зафіксаваная летапісам у 1323 годзе, стала афіцыйнай датай нараджэння горада, якому сёлета спаўняецца 670 год.

Мала дасведчаны ў гісторыі чытач, «надзейна» выхаваны гісторыяй СССР, абурана ўсклікне:

—Прычым жа тут Вільнюс, сталіца чужое нам Літвы?

Так, мы звыкліся з гэтаю назваю, як і з тым, што горад стаў афіцыйнаю сталіцаю суседняе рэспублікі. Але вось парадокс. Сталы жыхар места яшчэ ў якім-небудзь 1935-м, пачуўшы гук «Вільнюс» і брывом бы не павёў, бо ён нічога яму не сказаў бы. Таго ж, хто даводзіў бы, што так завецца яго родны горад, ён палічыў бы безнадзейным дурнем. Тое, што адбудзецца ў хуткім часе са старою Вільняю, не прадказаў бы і самы дасціпны празорца, бо спрадвеку славянскі горад, у навакольным краі якога нават у канцы XIX стагоддзя жыло толькі каля 17% літоўцаў (у самой Вільні працэнт гэты быў і зусім мізэрны), спрадвечная калыска беларускае гісторыі і культуры воляю «бацькі народаў» адразаецца ад роднае зямлі, абвяшчаецца сталіцаю чужога ёй этнасу...

«Успомню Вострую браму святую...»—пісаў паэт, складаючы велічныя рытмы славутае «Пагоні», якую многія ўспрымаюць нацыянальным беларускім гімнам. Славутая Вострая брама ў Вільнюсе завецца сёння «варотамі Аушрос»...

Назвы, назвы, назвы...

Затоеныя гукі нічога не гаворачых нам словаў чужое мовы хаваюць да сёння рэха ўспамінаў аб Гедыміне, Ягайле, Скарыне, адзываюцца крокамі Каліноўскага, Купалы, Багдановіча, братоў Луцкевічаў...

Слаўны касцёл святое Ганны (яго вы бачыце на здымку)—адзіны прыклад палымнеючае готыкі, выпеставаны на нашай этнічнай зямлі, завецца зараз ONOS BAŽNYČIA.

Але сапраўдная любоў не знае змяркання. Ты ў нашым сэрцы, Вільня, і мы з табою назаўжды.

Алесь МЕМУС.

## ЗАЯВА прадстаўнікоў партый і рухаў Беларусі, Латвіі, Летувы й Украіны

Мы, прадстаўнікі дэмакратычных рухаў ды партый Беларусі, Латвіі, Летувы і Украіны, глыбока занепакоены ростам небяспечных тэндэнцыяў у знешняй палітыцы Расіі, характэрнай праявай каторых стала прынясце Вярхоўным Саветам Расійскай Федэрацыі пастановы аб статусе горада Севастопаля.

Гэтую пастанову нельга расцэньваць іначай, як парушэнне Хельсінскіх пагадненняў, як пагрозу незалежнасці і суверэнітэту Украіны, стабільнасці і бяспецы на ўсходзе Еўропы.

На наш погляд, падобныя крокі расійскага Вярхоўнага Савета сталі магчымымі з прычыны ўзмацнення ўплыву шавіністычных сілаў Расіі на яе дзяржаўную палітыку, а таксама недаацэнкі Захадам гэтага ўплыву, як патэнцыяльнай крыніцы канфліктаў. Гэтаму садзейнічае таксама адсутнасць волі да правядзення самастойнай палітыкі ў кіраўніцтве краінаў былога СССР.

Выклікае здзіўленне і пазіцыя дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі ў Вярхоўным Савеце Расіі ў адносінах да дадзенай пастановы.

Мы ўпэўненыя, што сусветная супольнасць асудзіць гэтую акцыю як тыповы прыклад палітыкі сілы ды ўльтыматумаў у міжнародных зносінах і тым самым не дазволіць з'яўлення шчэ аднаго ачага напружанасці на еўрапейскім кантыненце.

Мы звяртаемся да парламентаў і ўрадаў сваіх краін, дзяржаў сусветнай супольнасці з заклікам прыняць усе меры для забяспячэння рашэння міжнародных праблемаў ва Усходняй Еўропе на аснове перамоў з улікам узаемных інтарэсаў, спынення практыкі прыняцця ў аднабаковым парадку няўзгодненых рашэнняў.

У сітуацыі, што склалася, лічым неабходным мабілізаваць магчымасці міжнароднай супольнасці на пошук гарантыяў бяспекі, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці краін, якія ўтвораны пасля заканчэння халоднай вайны і распада таталітарных рэжымаў.

Ад Беларускага Народнага Фронту
Зянон ПАЗЬНЯК.

Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады
Алег ТРУСАЎ.

Ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі
Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.

Ад Сялянскага Саюза Латвіі
Айварс ПРЫЕДЗІЦІС.

Ад Саюза Айчыны (Кансерватараў Летувы)
Статыс МАЛЬКЯВІЧУС.

Ад Народнага Руху Украіны
Міхаіл БОЙЧЫШЫН.

Ад Хрысціянска-дэмакратычнай партыі Украіны
Віталь ЖУРАЎСКІ.

*У мясцовых філіях*

## Рада супраць большасці Савета

Каардынацыйная Рада Віцебскай гарадской арганізацыі АДПБ прыняла Заяву, у каторай асудзіла пазіцыю членаў беларускага парламента, якія на пачатку ліпеня спрабавалі зняць С. Шушкевіча з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета. Дэпутаты, выступаючы супроць палітычнага дзеяча, які карыстаецца «вялікім аўтарытэтатам і павагаю беларускага народа», уступілі на шлях канфрантацыі і раскола грамадства,—лічаць аб'яднаныя дэмакраты.

Ю. С.

## Самы час зарыдаць...

Нядаўна адна гарадская газета панаракала на тое, што яе шчэ не чытаюць у «Лёндане, Нью-Ёрку» и даже в Кейптауне».

Так і хочацца сказаць: «Ды годзе, таварышы. Трэба ўмець трымаць сябе ў руках». Нас жа таксама пакуль у Кейптауне не чытаюць. Затое ведаюць ды чытаюць у Варшаве.

Менавіта адтуль, ад Польска-Чэшска-Славацкай Салідарнасці, перададзены ў падарунак Віцебскай Радзе БНФ камп'ютэрная тэхніка для газеты коштам 25 млн. злотых.

І цяпер у «Выбара» з'явілася магчымасць набірацца ды вярстацца на камп'ютэры.

Так што пры такім расстройстве нервовай сістэмы, як у нашых калегаў па пяру ад падобнай навіны, самы час зарыдаць...

Язэп КАЛЮЧКА.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# «ХОЧАМ ПАНСТВА Ў ВАШАЙ ХАЦЕ»

Некалі ў беларускіх газэтах, што выходзілі за часам бальшавіцкай, нямецкай і польскай акупацыяў у 1917—20 гг., высьмейвалі палітыку акупантаў. Маўляў, прыходзяць няпрошаныя і пачынаюць дэманстраваць свае "зацікаўленыя" адносіны да насельніцтва: «на каком языке, де, вы, белорусы, хотите разговаривать: русском или белорусском?»,—пыталі, напрыклад, такія прышэльцы. І беларус замест, каб адказаць «вон з маёй хаты, прыблуда, ён яшчэ тут пытаецца», пачынае думаць над пытаньнем нечаканага госьця.

Нічога дзіўнага, зрэшты, тут няма ў паводзінах людзей, ад якіх імкнуліся тады забраць імя і якія на запыт «якой ты нацыянальнасьці» адказвалі —«тутэйшы». Акупанты ведалі пра гэты бядотны стан (да якога яны ж і давялі наш народ) і таму задавалі такія пытанні.

Нешта падобнае адбываецца і цяпер. «Нада двуязычые,—крычаць такія ягамосьці,—патаму што беларускій язык не знаем і изучаць не хацім». Яны ўсур'ёз думаюць, што будуць намі камандаваць і што гэта іхнія «правы чалавека».

Яшчэ больш «арыгінальна» выглядаюць некаторыя прыехаўшыя да нас на два гады з Польшчы (дарэчы, тэрмін іхняга знаходжаньня тут ужо канчаецца) ксяндзы. «Трэба свабода, хто як хоча, так і гаворыць і на такой мове моліцца»,— кажуць яны нам у нашым доме. (Як быцца мы не ведаем, якую палітыку праводзілі ў нас іхнія папярэднікі). А самі хуценька рознымі спосабамі пачынаюць змушаць беларускіх каталіцкіх дзетак да польскай мовы—то пацеры, то «поздровене» ксяндзу па-польску трэба прамовіць, то яшчэ што. Самі ксяндзы ў большасьці сваёй беларускай мовы не ведаюць і службы па-беларуску не вядуць.

Цікава, што нашыя польскія госьці паводзяць сябе падобна як гэты посткамуністычны ўрад Беларусі, што абапіраецца ў сваёй наменклатурнай палітыцы на камуністычных пенсіянераў. Польскія ксяндзы таксама абапіраюцца на старэйшых людзей, для якіх польская мова зьяўляецца своеасаблівай касьцельнай мовай, а паняцьці «каталік» і «паляк» сінонімамі, тоеснымі катэгорыямі. Рэцэдывы перадваеннай шавіністычнай антыбеларускай палітыкі Польшчы адлюстраваныя ў сьвядомасьці некаторых людзей яскраз зьмешваньнем этнічных, канфесійных і моўных паняцьцяў. Замежныя госьці гэта добра ведаюць і ўмела карыстаюцца. Аднак, як я не раз пераканаўся, іхняя дзейнасьць часьцяком прадвызначаная шавіністычнай палітыкай і накіраваная на апалячваньне беларускіх дзяцей, на нашае маладое пакаленьне.

Камуністычная каменклатура, урад фактычна падтрымліваюць такія антыбеларускія паводзіны. І зноў жа нічога дзіўнага тут няма, бо гэты ўрад, і гэты Вярхоўны Савет, і іхнія структуры—антыбеларускія. Беларуская культура, беларускае адраджэньне загнаныя ў кут.

Сутнасьць у тым, што ўсім нашым нядобразычліўцам хочацца захаваць у нас вынікі акупанцкай асімілятарскай антыбеларускай палітыкі, пакінуць наш народ хворым, захаваць яго скалечаны статус-кво, не дапусьціць ніякай паправы і культурна-нацыянальнага адраджэньня. Яны прапануюць лічыць антычалавечыя вынікі сваёй разбуральнай дзейнасьці ў нашым народзе нормай, замацаваць іх, падтасаваўшы пад «правы чалавека». (Як быццам мільёны расстраляных акупантамі беларусаў не мелі чалавечых правоў). Заняліся б вы лепш сваімі справамі ў сваёй хаце, а не нашымі ў нашай, «господа-панове».

Нічога дзіўнага няма таксама ў тым, што на выбарах у Вярхоўныя Саветы СССР і БССР і польская культурніцкая арганізацыя, і некаторыя ксяндзы (нягледзячы на недапушчальнасьць умяшаньня іх у палітыку) падтрымалі камуністаў, а не дэмакратаў. Цяпер, праўда, шмат хто раскайваецца. Але можна не сумнявацца, што на новых выбарах многія зноў выступяць за камуністычную наменклатуру, ды яшчэ й людзей намовяць. Адчуваецца, што ўжо ў самім польскім таварыстве на Беларусі пачынаюць верхаводзіць былыя наменклатурныя камуністы.

Шкада, вядома, што ўсе гэтыя зьявы далёкія ад дэмакратычных падыходаў, накіраваныя ўпоперак нашага дзяржаўнага і грамадзскага нацыянальнага станаўленьня. Нам ужо нават пачынаюць пагражаць, як гэта здарылася нядаўна ў недапушчальным нетактоўным выступленьні аднаго з кіраўнікоў польскага таварыства на канферэнцыі аб талеранцыі ў Менску. Што ж, калі нехта хоча звузіць свае перспектывы, то, як кажуць, калі ласка. Але камуністы ўжо нікога не ўратуюць. Марныя надзеі. Ня думаю, каб беларусы ў дачыненьні да камуністаў мелі кароткую памяць. Кроў мільёнаў не забываецца.

Беларуская дзяржава будзе праводзіць дэмакратычную палітыку нацыянальна-культурнага адраджэньня. Усялякія чужыя шавіністычныя канцэпцыі і эксперыменты над сьвядомасьцю спыняцца. Будзе працягвацца і існаваць нармальны натуральны працэс культурнага развіцьця грамадзтва вольнай Беларусі. Выклікаюць сьмех нейкія там спадзяваньні «на Кебіча», ці на збанкрутаваны Вярхоўны Савет. Ім няшмат ужо засталося існаваць. Пасьля іх, я ўпэўнены, свае грамадзкія хваробы Беларусь вылечыць.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**народны дэпутат Беларусі.**

*Абсурд нашага жыцця*

## Як адправіць хваробу ў водпуск!

Не аматар хадзіць па ўрачах. Але разбалелася калена—скіраваўся ў паліклініку. Звяртаюся ў рэгістратуру:

—Дайце, калі ласка, талончык на прыём да рэўматолага.

—Яе няма. Пайшла ў водпуск.

—Калі прыйдзе?

—Нядаўна пайшла.

—А хто яе замяшчае?

—Ніхто.

Эх, каб можна было б адправіць хваробу на месяц у адпачынак...

## «Залатыя» кроплі

Суседка даўно хварэе на катаракту. Хвароба змушае рэгулярна прымаць лекі.

Нядаўна па рэцэпту лекара набыла ў аптэцы кроплі за 900 рублёў—аддала дзесятую частку пенсіі.

Вось ён, твар «бясплатнай» медыцыны.

## На ўсялякі выпадак...

Спатрэбіліся тры фотакарткі—на пашпарт. Пайшоў у атэлье. Папулярна растлумачылі, што менш шасці здымкаў не робяць. Заплаціў 606 рублёў. Мяркую: мо яшчэ адзін пашпарт прыдбаць? На ўсялякі выпадак—калі першы згубіцца.

**Язэп КАЛЮЧКА.**

## Пераможнае шэсце Саветаў!

75 гадоў назад летам 1918-га падчас грамадзянскае вайны і ваеннае інтэрвенцыі на занятай бальшавікамі тэрыторыі Беларусі ў Оршы, Віцебскім, Полацкім і Сенненскім, Горацкім, Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах адбыліся антысавецкія паўстанні на...

**Ю. Т.**

*Вільня*

## Людзі адчулі волю

Вырашылі мы з сябрам зьездзіць у Вільню. Пагледзець, як жывуць людзі, паблукаць па сьвятым для кожнага беларуса куточку, да сяброў завітаць.

Віцебскі вакзал сустрэў нас аб'явай на беларускай мове. Гэтаму невялічкаму факту можна было б і не ўдзяляць столькі ўвагі, але, на жаль, нам, беларусам, пазбаўленым сваёй роднай мовы, вось так і прыходзіцца цешыцца кожнаму беларускаму слову, якое толькі-толькі пачынае вяртацца зь нябыту, з забыцьця...

Тарганууўся вагон і пачаў адплываць назад вячэрні Віцебск. Наперадзе чакала Вільня.

Сонечным ранкам выйшлі на перон і з натоўпам накіраваліся на вуліцы горада. Адразу кідалася ў вочы чысьціня ваколіц, скверы, зеляніна, кветкі. Прахожыя добра апранутыя, вясёлыя, бестурботныя твары. Гучыць летувіская мова. Ніводнай рэклямы, аб'явы на расейскай мове. Дзе-ніяздзе сустракаліся вайскоўцы ці паліцэйскія ў нацыянальнай форме. (Між тым, калі мы спрабавалі перайсьці ня ў тым месцы вуліцу, паліцэйскі ветліва накіраваў нас на пешаходны пераход). Зрэдку трапляліся падлеткі-прадаўцы газет.

Адчувалася, што людзі там пасьпелі паўстаць з каленяў, скінуць з плеч камуністычнае ярмо, адчуць прагу да вольнага жыцьця. Людзі сталі людзьмі...

Зайшлі мы і на харчовы рынак. У нас казалі, што Летува хутка з голаду будзе паміраць, бо калгасы распусьціла... Ды не, шаноўныя, такое вы і ў сьне ня ўбачыце. І сьвежына, і саленьне, і вяндліна, ды колькі ўсяго! Сьвежая рыба, гародніна, зеляніна, замежныя прысмакі... А цэны—амаль тыя ж, як і ў нас, што трохі таньней, што даражэй. Па талонах толькі цукар ды масла. Тое ж і на рэчавым базары. Выбар, як мне здаецца, нават больш, чым у Польшчы. Дзяржаўныя крамы таксама завалены таварамі і сваёй, і замежнай вытворчасьці.



На вуліцах Вільні. Фота В. Белавуса.

Вось кажуць, што ня кожнаму па кішэні, таму і тавараў шмат. А ці кожны ў Беларусі здольны купіць нават ня тое, што хочацца, а толькі тое, што патрэбна, ды і то не сабе, а хаця б дзяцям? Але між тым, крамы ня ломяцца ад тавараў. Ды і жабракоў і п'яных я там ня бачыў за двое сутак, у адрозьненьне ад Віцебска.

Я не кажу, што ўсё заўважыў, усё зразумеў. Толькі добра бачна, што там ідзе мэтанакіраванае будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Адбываецца прыватызацыя, абнаўляецца гарадскі транспарт, праводзіцца рэканструкцыя гістарычных помнікаў. І гэта нягледзячы на цяжкасьці посткамуністычнай рэспублікі. І людзі зразумелі, паверылі ў сваю лепшую будучыню і з надзеяй глядзяць наперад, да чаго нам на Беларусі яшчэ йсьці ды йсьці.

...Напэўна, не змагу выказаць усе пачуцьці, якія адчуваеш, блукаючы па старых брукаваных завулках Вільні, старажытнага беларускага горада. Адчуваеш, быццам трапіў на некалькі стагодзьдзяў назад. Літаральна ўсё, пачынаючы ад вузкіх, сьцёртых вякамі вулачак, да стромкіх чарапічных дахаў, сьведчыць аб слаўных старонках беларускай гісторыі. Нават у захопнікаў-камуністаў не хапіла духу зьнішчыць гэтыя дзівосы, толькі «Пагоню» зьнялі з Вострай Брамы (але яна ўжо аднойлена). Тут лунаюць духі грозных беларускіх ваяроў, вымушаных абараняць сваю Айчыну і з захаду ад крыжакоў, і з усходу ад маскоўцаў. Крывавыя жэрныя захопнікі імкнуліся захапіць гэты цудоўны край, зьнішчыць яго культуру, веру, мову, людзей ператвараць у рабоў. Бароначыся, загінуў кожны другі беларус, але не здаліся. І дасюль помняць і Перуна, і Жыжу, бога агню, ня зьнішчылі дашчэнту культуру, мову.

Вельмі хацелася б, каб кожны беларус адчуў сябе нашчадкам слаўнай беларускай гісторыі. Ведаў і ганарыўся сваёй мовай, культурай. Каб адчуў сябе чалавекам, працягнуў бы руку сяброўства суседу, незнаёмаму. Бо як ты да людзей адносішся, так і да цябе ставяцца. Толькі зьядналіся пад ідэямі нацыянальнага Адраджэньня можна здабыць сабе шчасьлівае жыцьцё.

Нашы дзеці не даруюць нам былой веры ў камуністычную ўтопію, не даруюць і маладым дэмакратам, калі часам яны свае вузка-партыйныя інтарэсы ставяць вышэй гістарычных інтарэсаў нацыянальнага згуртаваньня, вышэй інтарэсаў перамогі над «чырвона-карычневай» ідэалёгіяй.

**Васіль ІГНАЦЕНКА.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





Краявід пад Віцебскам. Фота А. Лакоткі.

## Прагграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня

### Чацвер, 29 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

8.55 і 21.45. «Дзяжурная аптэка».
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 7-я серыя.
15.00. «Новыя прыгоды янкі пры двары караля Артура». 1-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

8.40 і 18.10. «Проста Марыя».
10.15. «Азбука кахання».
11.20. «Новыя прыгоды Акмаля». 2-я серыя.
12.30. «Два капітаны». 3-я серыя.
21.10. «Футбаліст».

**Канал «Расія»**

10.55 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Вязень замка Іф».
14.40. «Раса».
16.05. «Месца сустрэчы змяніць нельга».
21.00. «Мая другая мама».
23.30. «На пачатку слаўных спраў». 2-я серыя.

### Пятніца, 30 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

10.15. «Дзяжурная аптэка».
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 8-я серыя.
15.05. «Новыя прыгоды янкі пры двары караля Артура». 2-я серыя.
22.05. «Істсайдская гісторыя» (Аргенціна).

**Канал «Астанкіна»**

8.20. «Маара» («Млын»).
15.30. «Чорная гара».
20.55. «Суіні».

**Канал «Расія»**

10.50. «Санта-Барбара».
16.55. «Апошні электрычны рыцар».
19.25. «Вяртанне «Святога Лукі».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Мая другая мама».
12.50. «Ступень рызыкі».
14.40. «Гум-гам».
16.20. «Месца сустрэчы змяніць нельга».
23.00. «Калісьці ў Парыжы» (ЗША).

### Субота, 31 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

8.25. «Істсайдская гісторыя» (Аргенціна).
13.25. «Слёзы капалі».
21.50. «Жанчына французскага лейтэнанта» (Вялікабрытанія).

**Канал «Астанкіна»**

18.50. «Рыцары Х'юстана».
20.40. «Блакітнае і шэрае».

**Канал «Расія»**

11.00. «Час і сям'я Конвей».
19.25. «Чорны прынц».
0.35. «Зона смерці» (ЗША).

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

7.15 і 8.55. «Юнацтва Пятра». 1-я і 2-я серыі.
11.05. «Бяда».
13.20. «Вязень замка Іф». Фільм 2-гі «Азваздам».
20.40. «Мая другая мама».
23.20. «Канец сезона марожанага».

### Нядзеля, 1 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

8.55. «Дзяжурная аптэка».
13.10. «Прахіндзіяда, ці Бег на месцы».
16.30. «Як стаць «зоркай».
21.10. «Супердзяўчынка».

**Канал «Астанкіна»**

19.00. «Кракадзіл Дандзі-2» (Аўстралія).
0.05. «Каменданцкая гадзіна» (ЗША).

**Канал «Расія»**

10.55. «Адзіная».
19.25. «Тайны сведка» (ЗША).

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

9.30. «Без мундзіра».
16.00. «Трасцінка на ветры».
23.25. «Яшчэ раз».

*Навіны Беласточчыны*

## Крадзяжы без канца

Нядаўна невядомыя злачынцы ноччу выкралі з памяшканняў Галоўнага ўпраўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства камп'ютэрную тэхніку на суму 85 мільёнаў злотых. Гэта ўжо трэці крадзёж маёмасці БГКТ за апошнія 12 месяцаў. Раней зніклі аўдыёвідэаапаратура і легкавік «Паланез».

Працягваюцца крадзяжы і ў праваслаўных цэрквах. Напрыклад, у чэрвені злодзеі пазбавілі многіх ікон храмы ў Заблудаве, Міхалове, Паўлах, Рыбалах і Курашове.

## «Басовішча» ўжо чацвёртае

У сярэдзіне месяца ў Гарадку прайшоў чацвёрты фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча». Фундавалі на імпрэзу міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, ваяводскае ўпраўленне ў Беластоку, кіраўнічыя структуры гміны Гарадок, таварыствы з абмежаванай адказнасцю «Omega» (Бельск-Падляскі) і «ESAN» (Варшава).

*Весткі з раёнаў*

## Вяртанне Уладзіміра Кулакова

Цэлых пяць гадоў не шанцавала на галоўных урачоў Сенненскай цэнтральнай раённай бальніцы. То адзін, то другі з іх аказваўся то нячыстым на руку, то важнейшай справай лічыў для сябе клопат аб уласным дабрабыце, нават на шкоду лячэбнай рабоце. І дыягназы аказваліся няправільнымі, і смяротнасць у раёне павялічвалася.

А пачалося ўсё з таго, як вымушаны быў пакінуць пасаду галоўнага ўрача Уладзімір Мікалаевіч Кулакоў. І менавіта таму, што сваёй прынцыповасцю некалі не дагадзіў партыйнаму кіраўніцтву Сенненскага раёна. Ён, дарэчы, не здаваўся, вёў барацьбу за справядлівасць, нават быў канкурэнтам на выбарах народнага дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. (Пішу **БССР**, бо лічу, што большасць у Вярхоўным Савеце не з'яўляецца народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь). Але ці лёгка чалавеку было дабіцца справядлівасці ў час панавання партнаменклатуры?

І вось цяпер, праз пяць гадоў, справядлівасць адноўлена. На трынаццатай сесіі Сенненскага раённага Савета народных дэпутатаў У. М. Кулакоў аднагалосна (!) зацверджан галоўным урачом Сенненскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.

**І. ЛАЗУКА.**

Сям'я тэрмінова здыме 1 або 2-пакаёвую кватэру з тэлефонам у раёне ДБК ці Маркаўшчыны. Аплата штомесячна ў рублях.
Тэл.: **33-26-26** (Кацю).

Пенсіённае пасведчанне (з укладышам) серыя 06 № 006496 на імя Леаніда Янавіча Маркіндорфа лічыць несапраўдным.

## Вясёлы глобус

Настаўнік:
—Томас, тваё сачыненне пра сабаку напісана дакладна так, як у тваіго брата. Я падазраю, што хтосьці з вас спісаў адзін у аднаго.
Томас:
—Не, пан настаўнік. Проста ў нас адзін і той жа сабака.

* * *

—Слухай, Клаус, я даведаўся, што ты дапамагаеш дома мыць посуд. Мне б гэтае ніколі не прыйшло ў галаву.
—Мне таксама, Хайнц. Ідэя зыходзіла ад маёй маці.



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

Галоўны рэдактар Барыс **ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Валянцін АРЛОЎ
Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ
Васіль ІГНАЦЕНКА
Юры ЛАЎРЭНАЎ
Ларыса МІХНЕВІЧ
Міхась ПАЎЛАЎ
Уладзімір ПЛЕШЧАНКА
Леанід ТАМАРОВІЧ
Ігар ЦІШКІН

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выдаецца з кастрычніка 1991 г.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 28.07.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 5 руб.**



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014